*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года    № 4(389)    27 СТУДЗЕНЯ 1999 г.

## ЗАЯВА
## Сакратарыята Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

З недаўменнем і абурэннем патрыёты Беларусі ўспрынялі той факт, што абодва экзэмпляры падпісаных 25 снежня 1998 года ў Маскве Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А.Р. Лукашэнкам і Прэзідэнтам Расійскай Федэрацыі Б.Н. Ельцыным "Дагавора аб роўных правах грамадзян" і "Пагаднення аб стварэнні роўных умоў суб'ектам гаспадарання краін" учынены, у парушэнне агульнапрынятых дыпламатычных традыцый, толькі на адной мове — рускай. Тым самым адкрыта засведчана непавага да дзяржаўнай беларускай мовы і яшчэ раз пацверджана хлуслівасць дэмагагічных заяў кіраўнікоў Рэспублікі аб раўнасці ў нас беларускай і рускай моў.

Выступаючы пасля вяртання з Масквы ў прамым эфіры нацыянальнага тэлебачання, Прэзідэнт А.Р.Лукашэнка на пытанне журналіста аб адсутнасці беларускага варыянта надпісаных дакументаў адказаў так: "Гэта не мае ніякага значэння. Можна было напісаць на рускай і беларускай. Але паколькі ў нас руская мова з'яўляецца ў тым ліку і дзяржаўнай мовай, відаць, спецыялісты так вырашылі, што гэта ўпаўне нармальна".

Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны не лічыць і не можа лічыць нармальным парушэнне канстытуцыйнага статусу роднай мовы і заяўляе рашучы пратэст у сувязі з дэманстратыўным ігнараваннем у міжнародных стасунках дзяржаўнай беларускай мовы. Дарэчы, непаважлівыя адносіны ўладных структур да мовы карэннага насельніцтва нашай краіны ў апошні час пачасціліся і робяцца звычайнымі. Так, перапісныя лісты для праводзімага неўзабаве ў Беларусі перапісу насельніцтва Міністэрствам статыстыкі і аналізу падрыхтаваны толькі на рускай мове. Ідзе відавочнае адмаўленне ад афіцыйна заяўленага двухмоўя і рэальнае замацаванне ролі дзяржаўнай мовы за рускай мовай.

Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны рашуча асуджае антыбеларускую практыку высокага чынавенства Рэспублікі ў адносінах да нашай роднай мовы і патрабуе строгага захавання за беларускай мовай усіх адзнак яе дзяржаўнасці.

Заклікаем усіх грамадзян суверэннай Рэспублікі Беларусь, усіх сяброў нашай Бацькаўшчыны актыўна выступаць супраць любых спроб уціску адной з самых старажытных і багатых славянскіх моў. Не будзем забываць, што, пакуль жыве беларуская мова, жыве самастойная, вольная Беларусь !

***Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны***

### Ахвяраванні на ТБМ

| | |
|---|---|
| 1. Аркадзь Блінкоўскі, г. Баранавічы | 150 000 |
| 2. Віктар Сырыда, г. Баранавічы | 200 000 |
| 3. Зверава Т.М., г. Баранавічы | 25 000 |
| 4. Філімоненка Марына, г. Баранавічы | 50 000 |
| 5. Янкоўская Зоя Н. г. Баранавічы | 100 000 |
| 6. Антановіч Лідзія, г. Баранавічы | 60 000 |
| 7. Багдановіч Т.І. г. Баранавічы | 20 000 |
| | 605 000 |
| 8. Братчэня Ніна, г. Менск | 100 000 |
| 9. Будаўнік з Менску | 5 500 000 |

Таварыства беларускай школы Фрунзенскага раёна г. Менска выпісала газету "Наша слова" на 1-е паўгоддзе 1999 года: серэдняй школе N180, сярэдняй школе N175, бібліятэцы "Юнацтва", Тэхнікуму лёгкай прамысловасці, Індустрыяльна-педагагічнаму тэхнікуму.

Сакратарыят ТБМ падпісаў 10 газет "Наша слова" бібліятэкам Магілёўскага раёна на першы квартал1999 г. і 10 газет бібліятэкам Жыткавіцкага раён на люты-красавік 1999 г.

## У Сакратарыяце ТБМ

№ 1 12.01. 1999г.

На сваім паседжанні 12 студзеня г.Сакратырыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны разгледзеў апублікаваныя ў газеце "Наша слова" № 51 за 30 снежня 1998 года матэрыялы з заклікам да стварэння ў краіне партыі "Наша будучыня".

Сакратарыят ТБМ лічыць неабходным заявіць, што кіраўніцтва Таварыства не мае ніякага дачынення да ініцыятывы невядомых яму асоб стварыць у Беларусі яшчэ адну палітычную партыю. Згодна са сваім Статутам, ТБМ з'яўляецца непалітычнай грамадскай арганізацыяй, якая ставіць мэтай аднаўленне ў грамадстве стаўлення да роднай мовы як да нацыянальнай святыні, пашырэнне яе ўжытку ва ўсіх сферах жыцця Рэспублікі Беларусь, усебаковае развіццё і захаванне яе чысціні і самабытнасці, садзейнічанне забеспячэнню ёй статуса адзінай дзяржаўнай мовы. У ажыццяўленні гэтай мэты Таварыства гатова супрацоўнічаць з дзяржаўнымі органамі і прадстаўнікамі ўсіх палітычных партый і грамадскіх рухаў Беларусі.

Стварацць "сваю" партыю ТБМ не мае намеру і ўцягванне яго ў сумніўныя палітычныя дзеянні расцэньваю, як правакацыю.

## СТВОРАНА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

5 студзеня у Менску была праведзена канферэнцыя, на якой было ўтворана Менскае раённае Таварыства беларускай мовы, абраны кіраўнічыя органы. Старшынёй Рады таварыства быў абраны Кучынскі Валеры. На канферэнцыі прысутнічалі дэлегаты з г.п. Заслаўе, г.п. Ждановічы, п.Лясны, в.Чурылавічы.

Адной з першачарговых задач раённага таварыства з'яўляецца стварэнне суполак ТБМ у найбольш буйных населеных пунктах Менскага раёна - Калодзішчах, Самахвалавічах, Міхнавічах, Астрашыцкім Гарадку, Прывольным. Прызнана мэтазгодным наладзіць выпуск інфармацыйна-дыскусійнага бюлетэня таварыства.

***Г.Гацкевіч***

## І даў ім Бог самае ліхое начальства

Усім добры горад Ліда: і высокай нацыянальнай свядомасцю насельніцтва, і вялікім працэнтам беларускамоўных класаў, і добра развітай структурай актыўных грамадскіх арганізацый, і мноствам талентаў... Адно не пашанцавала Лідзе з начальствам. Здэцца і апрануты, як усе, і падстрыжаны няблага, а хамства і дур прэ з усіх адтулін.

23 студзеня амаль ва ўсіх гарадах Беларусі праходзілі пікеты ў абарону незалежнасці, супраць аб'яднання з Расеяй. Пікеты былі, як дазволеныя, так і не дазволеныя. І ні ў адным горадзе не было ніякіх эксцэсаў паміж уладамі і пікетоўшчыкамі. Ні адзін чалавек у Беларусі не быў затрыманы, акрамя, як у Лідзе.

Тут улады праявілі сябе. Пад час пікету за **незалежнасць Бацькаўшчыны** былі затрыманы Станіслаў Суднік, Уладзімір Хрышчановіч, Антон Пігулеўскі і Валянціна Пігулеўская. На затрыманых складзены пратаколы, іх чакае судовае разбіральніцтва і ўсё, што з яго выцякае.

## *Беларускія СМІ пра беларускую мову*

**Агляд і каментар Язэпа Палубяткі**

У першыя паслякастрычніцкія дзесяцігоддзі наша мова адчувала належную патрэбу ў розных сферах яе ўжывання. Нават у даперабудоўчых умовах было добрай традыцыяй заканамернае вывучэнне беларускай мовы ў сям'і роднасных усходнеславянскіх моў.

Не паслабла цікавасць да беларускай мовы і ў наш час, калі яна абвешчана дзяржаўнай адначасова з рускай. Нашы пісьменнікі, творчая інтэлігенцыя і асабліва моладзь хочуць ведаць карані сваёй мовы, глыбока і ўсебакова асэнсаваць яе моўныя здабыткі на розных узроўнях і гістарычных этапах развіцця. На жаль, яна не стала зацікаўленым дзяржаўным інтарэсам Рэспублікі Беларусь па выкананні Закона аб беларускай мове на належным узроўні, у параўнанні з рускай мовай.

**Уладзімір Анічэнка**
**"ЛіМ" №1 1.01.1999г.**

*На жаль, многія бацькі памылкова лічаць, што валоданне беларускай мовай у нас не вельмі патрабуецца, то дзецям можна яе і не вывучаць. Але ж гэта наша родная мова! Не будзе яе, не будзе і нас! Многія стагоддзі яна верна служыла свайму народу, спаўна задавальняла ўсе яго патрэбы на самым высокім узроўні ў зносінах паміж людзьмі.*

***В.Бойка, ветэран працы***
***"Пагоня" № 2***

Значыць, найпершы і найгалоўны сёння наш прагматычны клопат — не даць ворагам беларушчыны зліквідаваць наш Беларускі Дом.

**Ніл Гілевіч**
**Народная воля. 14.01.99г.**

*О, Беларусь, палігон генацыду, чуеш прыглушаны крык?*
*Гэта тоне твая Атлантыда, мовы тваёй мацярык.*

***Марцін Коўзкі***
***ЛіМ N 1, 1999 г.***

*Насустрач VI з'езду ТБМ*

# Інтэрвію з кіраўніком абласной арганізацыі ТБМ сп. Міхасём Булавацкім

***1.Раскажыце аб стварэнні Вашай арганізацыі.***

— Абласная арганізацыя ТБМ створана ў 1994 г. на базе шасці раёнаў вобласці, але, нажаль, яна не зарэгістравана. Згодна статуту, мы маем усе падставы для яе рэгістрацыі, але Мінюст лічыць, што шэсць раёнаў не дастаткова для стварэння арганізацыі. Не гледзячы на гэта, мы існуем і дзейнічаем.

***2. Якія адносіны уладаў да дзейнасці ТБМ?***

— Адносіны прахалодныя. Яскравым прыкладам такіх адносін з'яўляецца стварэнне беларускага ліцэя ў Магілёве. Раней у вобласці кіраваў Грынёў М.Ф., які хоць і не ведаў беларускай мовы, але падтрымаў наш праект аб стварэнні нядзельнага беларускага ліцэя, але на вялікі жаль, калі былі падрыхтаваны паперы на стварэнне сапраўднага беларускага ліцэя, начальнік упраўлення адукацыі Раманаў А.П., фактычна заблакаваў гэты праект.

***3. А якое становішча з беларускімі класамі?***

— У траўні 1998 года была праведзена навукова-практычная канферэнцыя "Стан ужытку беларускай мовы праз 3 гады пасля рэферэндуму". Лічбы, нажаль, не суцяшальныя. На момант абрання Лукашэнкі 1.09.94г. вучыліся на беларускай мове 6.6% вучняў, а канец 97/98 навучальнага года — 0,5%.

***4. Скажыце, калі ласка, які сацыяльны склад арганізацыі і ці пашыраецца яна?***

— У асноўным гэта інтэлігенцыя. Некаторыя людзі выйшлі з арганізацыі, таму што сталі набойівацца, каб іх імя не гучала ў апазіцыйных структурах. Яны гатовы плаціць складкі, але сабраць іх разам вельмі цяжка, бо яны баяцца згубіць працу, як згубіў яе я сам.

***5. Як грамадства ставіцца да арганізацыі?***

— Я б не сказаў, што адмоўна, але насцярожана і асабліва, як да ўсяго апазіцыйнага.

***6. Якія мерапрыемствы праводзіць ТБМ?***

— Вясной мы наладзілі сустрэчы з групай пісьменнікаў у бібліятэках і навучальных установах. Вельмі добра прайшла сустрэча ў педуніверсітэце, дзе прысутнічала вялікая колькасць студэнтаў. Наогул, наша задача — стварэнне такіх умоў, каб беларускай мовай пачалі цікавіцца і карыстацца.

***7. Чым бы Вы хацелі падзяліцца з чытачамі і сябрамі ТБМ з досведу сваёй дзейнасці?***

— У Магілёўскім універсітэце дзейнічаюць 2 літаратурных аб'яднанні: "Зніч" і "Натхненне". Там вельмі паважліва ставяцца да беларускасці, прыходзяць студэнты, якія ведаюць беларускую мову і пішуць беларускія вершы. Я сам чытаў ім свае пераклады, якія выклікалі зацікаўленасць.

***8. Якія дыскусіі праходзяць у суполках напярэдадні з'езду ТБМ і якія пытанні Вы рыхтуеце вынесці на з'езд?***

— У сувязі з тым, што суполкі сабраць вельмі складана, дыскусіі праходзяць больш у індывідуальным парадку. Мы прытрымліваемся тактыкі маленькіх перамог. Спачатку стварыць 1 беларускі клас, потым больш. І так крок за крокам ісці да стварэння беларускага ліцэя. Ёсць шмат выкладчыкаў, якія ведаюць беларускую мову і гатовы на ёй выкладаць. Такая практыка павінна прынесці больш, чым глабальныя агульныя размовы, якія страцілі актуальнасць.

***9. Якую ролю у палітычным жыцці можа адыграць ТБМ?***

— ТБМ не дае магчымасці забыць што мы беларуская нацыя, якая валодае цудоўнай мовай, якая мае доўгую і паважаную гісторыю. Гэта як бы цыментуе нас, як народ, як нацыю. Напрыклад, мы запытаем на вуліцы людзей, хто яны і ў адказ пачуеш — беларусы. А калі запытаем, што гэта значыць, яны не ведаюць, бо не ведаюць ні мовы, ні гісторыі. Яны, як людзі — абалонкі - пустыя. Ці ўжо яны страцілі сваё напаўненне, ці яго янчэ не было. Трэба ўзгадваць біблію — усё пачалося ад слова. Калі людзі называюць сябе беларусамі — значыць яны, як бы раскрываюць сябе насустрач нечаму беларускаму. І калі яны не адмаўляюцца ад беларускасці — мы ім можам дапамагчы вярнуць беларускасць у сябе, каб яны адчувалі сябе беларусамі і ганарыліся, што яны беларусы. ТБМ тут можа шмат што зрабіць.

***10. Якія планы Магілёўскай арганізацыі на бліжэйшую будучыню?***

— У першую чаргу — гэта рэгістрацыя. Трэба сабраць усе рэшткі якія ёсць і правесці абласную канферэнцыю. А далей працаваць адпаведна статуту.

***11. Што чакаеце ад з'езду?***

— З аднаго боку, шмат, многа, з другога ... Вельмі супярэчлівыя думкі. Канешне, чакаю шчырай размовы, калектыўнага меркавання. Трэба нейкім чынам упарадкаваць беларускую мову, бо існаванне некалькіх варыянтаў мовы пачынае шмат людзей раздражняць. Трэба надштурхнуць афіцыйныя органы, інстытут мовы, каб правесці некалькі канферэнцый па упарадкаванню правапісу. Гэта цяжка, бо "мэтры" бел.мовы будуць абараняць наркомаўскі варыянт мовы. Трэба вяртанне "тарашкевіцы". Можа не ўсё вяртаць, але ўзяць за аснову.

Асабістае жаданне — выпусціць часопіс для настаўнікаў матэматыкі. Гатоў зрабіць яго цікавым.

***12. Якія пажаданні чытачам?***

Па-першае – надзеі і цярпення. Па-другое — падтрымліваць газету "Наша слова", падпісваючыся на яе, і пашыраць кола падпісчыкаў. У газеце многа цікавых матэрыялаў і яна нясе шмат карыснага.

***Тамара Антончык.***

# Расейскамоўная экспансія

***Ёсць шмат відаў экспансіі: эканамічная, палітычная ды іншыя. І сярод гэтых іншых метадаў заваёвы чужых тэрыторый не апошняе месца ў акупантаў адведзена моўнай экспансіі.***

Камусьці здаецца тое зусім не істотным, хтосьці на гэтую акалічнасць не хоча звяртаць увагі. Наўкола пануе недарэчная абыякавасць. А моўная экспансія нібыта той нябачны бандыт дзейнічае на тэрыторыі Беларусі няўмольна, патаемна, нахабна. Прыкладам, ты намагаешся прагнаць прэч з галавы чужамоўнае асяроддзе, а гэтая іншаземшчына няўмольна стукае ў твае вушы ды яшчэ слепіць вочы друкаваным радком. Самае недарэчнае, што для простага чалавека ствараецца такое ўражанне быццам бы без гэтага слова нічога не існуе. А самае гэтае слова надае ўсяму асяроддзю непаўторнасць, загадкавасць ды вялікасць. І быццам бы ўсё, што напісана ці вымаўлена са словам "русский" набывае свежасць.

Вось гэты дзіўны кароткі пералік. **Русский лес, русская зима, русская женщина, русская матрёшка, русский баян, русская гармошка, русская тройка, русская печь, русский хлеб, русские самоцветы, русский романс, русский богатырь, русские пельмени, русский квас, русское радио, русские красавицы, русские узоры, русская баня, русское поле, русская душа, русская баба, русская водка.**

Каб надалей не весці бясконцы пералік бязглуздых словаспалучэнняў хочацца дадаць толькі адно: **русское нахальство.**

Вось так непрыкрыта — нахабна адна нацыя намагаецца ўзвысіцца перад другою.

***Язэп Палубятка.***

# "З чужой моўнай практыкі..."

Працяг

**Павел Сцяцко,**

*доктар філалагічных навук, прафесар, старшыня Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

***Працоўня і майстэрня.*** Нашыя слоўнікі з значэннем "вытворчае памяшканне" падаюць слова ***майстэрня*** (ТСБЛМ, С.328). А вось у друку з гэтым значэннем выкарыстоўваецца і слова ***працоўня***: "Аглядаючы мастакову працоўню на адным з палотнаў, у хлопцу яна прызнала самога Янку".(Арсень Ліс. Цяжкая дарога свабоды. - Мн. 1994. С.161). Прыемна бачыць вас у вашай працоўні, у вашых цяперашніх умовах. (Полымя. 1998.№9.С.278). Яго фіксаваў ужо В.Ластоўскі (ПРК (б) С.С.241).

Гэтае слова вельмі натуральна кладзецца ў мову, бо маем жа мы шмат вытворных з коранем ***прац -(а)***: ***працавік, працаўнік, працоўны*** ды іншыя. Слова ***працоўня*** ўтварылася паводле ўласцівай беларускай мове мадэлі "аснова дзеяслова суфікс ***-ня***": ***вартоўня, сушня, стайня*** ды пад. Яно бытуе ў мове нашых суседзяў - палякаў, чэхаў, славакаў: польск. ***pracownia*** - майстэрня, атэлье, лабараторыя, чэшск. ***pracovna***- пакой для заняткаў, кабінет, славацк. ***pracovna***, тое самае.

Так што, тое памяшканне, дзе можна працаваць (майстэрня, кабінет, лабараторыя, кафедра), натуральна называюць словам ***працоўня.***

***Розніца і адрозівацца. Рознасць і адрозненне.*** З значэннем рас. ***отличаться*** ў беларускай мове ёсць два словы: ***розніца і адрозніваца.*** Першасным, найбольш натуральна матываваным выступае першае з іх, бо яно найдакладней перадае працэсавае значэнне, узніклае ад прыметніка ***розны.*** ТСБМ (Т.4. Мн., 1980.С.713) сведчыць: "***Розніца***, незак. ад каго -чаго чым. Разм. Мець асаблівасці, рысы, якія адрозніваюць каго —, што -н. ад іншага (іншых), робяць непадобным на іншых; адрозніваюцца. "Сцяпан Уласавіч амаль нічым не розніцца ад іншых дзядзькоў — ні гаспадаркай, ні адзеннем. (Мележ). Публіцыстычнасць П.Глебкі розніцца ад мяккага лірызму Я.Купалы, ад эпічнай непаспешлівасці Я.Коласа. ("Полымя"). Сучасны варыянт песні "Ой, рэчанька, рэчанька" таксама розніцца ад змешчанага ў пятым томе "Люду беларускага". (Саламевіч). Як бачым, гэтае натуральнае слова ***розніцца***, якое надта дакладна перадае сэнс, панянцце, абумоўленае яго ўтваральным прыметнікам ***розны***, выкарыстоўваецца і ў навуковым стылі мовы, і ў славутых пісьменнікаў (Мележ). Але не зважаючы на ўсё гэта, яно ў слоўніку абмяжоўваецца паметай "размоўнае". Чаму? Ды таму, што яго прэфіксавы варыянт ***адрозніваецца*** "бліжэйшы да расейскай мовы" (К.Чорны) — мае аналагічную прыстаўку. Так, насуперак натуральнасці нацыянальнай мовы ішло яе набліжэнне да ўсесаюзнага стандарту. Гэтае нічым не апраўданае абмежаванне ў выкарыстанні натуральнага беларускага слова ***розніца*** бачым і ў перакладных слоўніках. (БРС-88.С.407). Між тым, аўтарытэтныя выданні адкідваюць такое абмежаванне і актыўна карыстаюцца гэтым словам у рознастылёвых тэкстах: "Можна толькі гадаць, якой была арганізацыя прасторы і грамадства, але тут яна пэўна рознілася ад абшараў былой Расійскай імперыі ..." (Беларускі гістарычны агляд.Т.4.Мн.,1997. С.9). Ад прыметніка ***розны*** утварылася ***рознасць***, якое потым таксама стала замяняцца на ***адрозненне*** (калька рас. отличие). Але нацыянальны друк захоўвае свае, першасныя словы: Культурная рознасць пачала ўспрымацца як нацыянальная толькі ў 20 ст. (Тамсама.С.35).

Дарэчы тут будзе нагадаць, што ў ранейшых слоўніках словы ***розніца*** і ***рознасць*** падаваліся без стылістычных абмежаванняў: "Рознасць ж. – различие, отличие. Розьніцца – различаться, отличаться" (БРС-26.С.278).

***Уцекачы і бежанцы.*** Слова ***уцякач***, як эквівалент рас.***беженец*** падае першы акадэмічны "Русско-белорусский словарь" 1953 года пад рэдакцыяй славутых пісьменнікаў акадэмікаў Я. Коласа, К.Крапівы і членакарэспандэнта АН БССР П.ГЛебкі: "Беженец — бежанец, -нца м.; уцякач, -ча м.; беженка — бежанка, -кі ж.; уцякачка, -кі ж.; беженский — бежанскі; уцякацкі (С.28). "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года пад рэдакцыяй К.Крапівы ўжо выштурхоўвае гэтае слова з літаратурнага слоўніка: "Уцякач - 1.беглец; 2.См. бежанец". Двухтомавае яго перавыданне фіксуе ***уцякач*** як размоўнае з спасылкаю: см.***бежанец***. (Т.2. Мн., 1989. С.636). "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т.5.Кн.2.Мн.,1984,С.91) падае слова ***уцякач*** з двумя значэннямі: 1) Той, хто ўцякае або ўцёк адкуль -н. 2. Разм. Тое, што і бежанец". Аднак гэтае стылёвае кваліфікацыі "размоўнае" наш друк не трымаецца. І зразумела чаму: слова ***ўцякач*** (рас. ***беженец***) натуральна матывуецца словам ***уцёкі*** і вынікае з яго першага значэння. Слова ж ***бежанец*** звязана з словам "бежаць", якому адпавядае белар. ***уцякаць.*** "Русско-белорусский словарь" 1993 года падае белар. ***уцякач*** без усялякіх стылістычных абмежаванняў як адэкват рас. ***беженец*** (Т.1.С.80). Тут бачым і вытворнае ад яго - ***уцякачка*** і ***ўцёкі*** — рас. ***беженство.*** Сучасны нацыянальны друк пацвярджае міжстылёвасць слова ўцякач: "Тэрыторыю БССР пакінула значная колькасць інтэлігенцыі, ваенныя ўцекачы, тыя, хто прыехаў сюды на заробкі" (Беларускі гістарычны агляд.Т.;. Мн., 1997.С.52). "З 1988 г. д-р Говард працаваў з вялікай супольнасцю мігрантаў і ўцекачоў з Фіджы." (Майкл Говард. Сучасная культурная антралогія. Навуковае выданне. Мн.,1995.С.8).

***Абавязанне (забавязанне) — а не абавязацельства.*** Ад словаў ***абавязваць*** і ***абавязаць*** натуральныя ўтварэнні ў беларускай мове ***абавязак*** і ***(з) абавязанне.*** Слова ***абавязацельства*** — штучная структура, бо беларускай мове неўласцівы суфікс ***- тельств-о.*** Параўн.: ***доказ*** і (рас.) ***доказательство***, ***здзек*** і ***издзевательсво***, ***лаянка*** і ***ругательство.*** "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Менск, 1926.С.7) падае "Абавязак м. — обязанность, обязательство". В.Ластоўскі рас. ***обязательство*** перакладае словам ***забавязаньне*** (ПРК (б)С.с.26). "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т.І.Мн.,1977.С.30) фіксуе слова ***абавязацельства*** (ў І зн.) з той дэфініцыяй, што і слова ***абавязак.*** І калі чытаеш: "Абяцанне або дагавор, якія патрабуюць абавязковага выканання ад таго, хто іх дае", то гэтае працэсавае значэнне якраз добра перадаецца менавіта аддзеяслоўным назоўнікам ***(з) абявязанне.*** У перыядычным нацыянальным друку і выкарыстоўваюцца гэтыя адмысловыя беларускія словы: "Калі ты ўзяў на сябе гэтае адказнае абавязанне, то і мусіш выканаць яго, каб не сорамна было затым перад сваімі дзецьмі і Бацькаўшчынай" (Навіны.29.07.1998). "Міжнароднае забавязанне па знішчэнні зброі" (Голас Радзімы.15.02.1996).

*(Працяг у наступным нумары)*





# Славамір Адамовіч у Вільні

Першая сустрэча з паэтам Славамірам Адамовічам адбылася ў Таварыстве Беларускай Культуры ў Вільні, якім ужо дзесяць гадоў бяззменна кіруе Хведар Нюнька. У ўтульнай зале бібліятэкі, у цесным коле прыхільнікаў яго творчасці. Імя яго вядома тут, у Вільні, асабліва апошнія два гады (перажывалі) хваляваліся за лёс паэта, за здароўе. Памятаю, як шукала ў Менску зборнікі вершаў, чытала нататкі. Беларуская інтэлігенцыя Вільні душой была разам з ім. А кіраўніцтва ТБК умее і часта ладзіць сустрэчы з неардынарнымі асобамі. А нядаўна зноў у ТБК адбылася сустрэча з Славамірам Адамовічам на якой прысутнічала шырокае кола слухачоў, было шмат моладзі, вучні 9, 12 класаў. Паэт чытаў новыя вершы, яшчэ не надрукаваныя, паэму.



**Славамір Адамовіч у ТБК**

Цікава было ўсё: і творчыя планы, і асабістае жыццё, і перажытае, захапляліся мужнасцю. Сустрэча атрымалася цікавай, моладзь захапілася вершамі С.Адамовіча, пасля мы збіраліся, я чытала вершы паэта з зборнікаў "Зямля Ханаан" і "Зваротныя правакацыі" і не толькі гэтыя. Хутка выйдзе новая кніга Славаміра Адамовіча, а таму ўперадзе і новыя сустрэчы.

*Леакадзія Мілаш*
*г.Вільня*
*снежань 1998г.*

# Сустрэча ў Беларускім тэатры

Напярэдадні Каляд, 23 снежня сябры Ракасоўскай суполкі № 5 Свіслацкай Рады БНФ "Адраджэньне", сябры з другіх партый БСДГ, АГП, Нацыянальнай партыі наведалі тэатр "Зніч".

Упершыню ў гэтым тэатры выступалі студэнты I курса энергатэхнікума разам з актрысай Галінай Дзягілевай. Дзеці чыталі вершы Л.Генюш, распавядалі пра яе лёс. Потым Г.Дзягілева сыграла свой маналог, драматызаваную споведзь аб жыцці Л.Генюш. Мы ярка ўбачылі карціны мінулага, трагічнае жыццё нашай паэтэсы. Зала была перапоўнена. Вельмі добра, што было шмат моладзі, якія ўважліва слухалі сваіх сяброў. Гэта цудоўная сустрэча з паэзіяй, каханнем да сваёй зямлі адбылася дзякуючы выкладчыцы беларускай мовы энергатэхнікума сп. Алены Леванковай. Гэта яна пазнаёміла сваіх студэнтаў і нас з творчасцю Л.Генюш. Мы вельмі ёй удзячны за гэта. І яшчэ ўдзячны цудоўнай гульні Г.Дзягілевай. Пасля заканчэння спектакля актрысе Г.Дзягілевай падаравалі кветкі.

*Грузнова Т.*

# Кніга "Улада й грамадства. Беларусь 1991 — 1998"

У 1998 годзе ў Польшчы выйшла кніга Алены Стралковай і Сяргея Аўсянніка "Улада й грамадзтва. Беларусь 1991 — 1998", прысвечаная сучаснай гісторыі Беларусі. Кніга павінна была з'явіцца на Беларусі, дарэчы і напісана для беларускага чытача. Аднак ёй давялося забачыць свет у Варшаве. Самая старэйшае выданне Польшчы — "Rzeczpospolita" і Цэнтр Міжнародных Адносінаў, зацікавіліся працай і вырашылі без зменаў прапанаваць яе польскаму чытачу. Здаецца, што кніга выклікала цікавасць. Сёння яе ўжо не купіш у кнігарнях, а рэцэнзіі выйшлі ў Чэхіі і вядомых выданнях Польшчы. Па словах аўтараў, іх праца не з'яўляецца падручнікам па гісторыі, а толькі спробай паказаць, як складаліся адносіны паміж уладай і звычайнымі жыхарамі Беларусі, і чаму стала магчымым атрыманне ўлады праз палітычных авантурыстаў. Шмат месца прысвечана адносінам з Расеяй, якія зусім не былі на карысць Беларусі. Па частках кніга друкуецца ў часопісе "ЭПОХА".

## Першая местачковая газета на Беларусі




Пабачыў свет кантрольны нумар першай местачковай газеты на Беларусі. Першая яна ці не першая, хто яго ведае, прынамсі на газеце так напісана.

Спадобілася на выданне сваёй газеты мястэчка Радунь Воранаўскага раёна Гарадзенскай вобласці. Газета выйшла накладам 299 асобнікаў і ўтрымоўвае пакуль што інфармацыю культурнага, краязнаўчага, адраджэнцкага плану. Друкуюцца творы мясцовых літаратараў. Укладае газету настаўнік Радуньскай школы Віталь Куплевіч.

Выхад газеты стымуляваў грамадскае жыццё ў Радуні. Колькі дзён таму ў Радуні створана Краязнаўчае таварыства, у якім ужо зараз больш 20 чалавек.

У Польшчы ў эпоху "Салідарнасці" было дзве тысячы вось такіх газет і газетак, якія ўскрывалі хлусню афіцыйнай прэсы. І яны сваю справу зрабілі. Польшча стала і свабоднай і заможнай. Дасць Бог, калі на Беларусі ў кожным мястэчку будзе незалежная газета, то і Беларусь будзе і свабоднай, і заможнай.

# ДА ГІСТОРЫІ ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ БЕЛАРУСКІХ ЖАНЧЫН КАНАДЫ

З нагоды 50-х угодкаў Згуртавання Беларусаў Канады ды, святкаванага ў Канадзе, месяца гісторыі жанчыны, Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады ладзіў 27-га верасня 1998 г. у Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Таронта імпрэзу, галоўнай тэмай якой быў даклад старшыні ККБК др. Раісы Жук-Грышкевіча на тэму: "Агляд гісторыі Задзіночання Беларускіх Жанчын Канады".

Задзіночанне Беларускіх Жанчын Канады паўстала ў 1965 годзе на грунце Згуртавання Беларусаў Канады. Паводле Статуту **ЗБЖК пры ЗБК і БАПЦ** мае на мэце перадусім **самаўзгадаванне** і супрацоўніцтва з ЗБК і БАПЦ. **"Што я ведаю аб выдатных жанчынах Беларусі"** сталася ключавым пытаннем, на якое ЗБЖК стараецца адказаць.

Самаўзгадаваўчую працу ЗБЖК распачало на 3-ай сваёй зборцы ў лістападзе 1965 г., на якой запрошаны праф. Вінцэнт Жук-Грышкевіч даў лекцыю пра "Пачаткі беларускага **нацыянальнага** адраджэньня", праслухаць якую жанчыны запрасіла ўсё беларускае грамадзтва.

Пасля гэтае лекцыі жаночая арганізацыя арганізавала другую на тэму: "Што такое парламентарнае права і чаму яго трэба ведаць сябрам усякае арганізацыі".

У супрацоўніцтве з ЗБК ЗБЖК арганізавала акадэмію для адзначэння 50-х угодкаў смерці Алаізы Пашкевіч — Цёткі. Даклад на тэму "Цётка як чалавек й нацыянальна-грамадскі дзеяч" прыгатавала Валянтына Жукоўская-Пашкевіч, пазнейшая аўтарка двутомнага англамоўнага падручніка "Беларуская Мова".

Другі працоўны год ЗБЖК быў дзейным ды і сумным. Мы страцілі сяброўку Анастасію Ананіч, памяць якое годна ўшанавалі. У лютым 1967 году ЗБЖК ладзіла памінкі па Менскай опернай спявачцы Барбары Вержбаловіч. Быўшы кіраўнік беларускае секцыі радыё "Вызваленьне", цяпер "Свабода", др. Віцэнт Жук- Грышкевіч гаварыў, што Барбара Вержбаловіч была не толькі выдатнай спявачкай, але і беларускай патрыёткай, грамадзкай дзеячкай ды вартаснай працаўніцай радыё "Вызваленьне ". Адыграны на тэйп-рэкордзе дзве перадачы радыё "Вызваленьне" далі магчымасць пачуць нам спеў і гутарку Памерлае. Так сталася, што ў гэтых-жа перадачах мы пачулі галасы яшчэ двух нябожчыкаў: сьв.пам., замардаванага бальшавікамі ў Мюнхене Лявона Карася і памерлага Пётры Сыча. Ды і сама перадача была прысвечана 25-м угодкам трагічнае смерці Янкі Купалы.

1967 год быў годам **450-х угодкаў Беларускага Друку і стагоддзя Канады**. З гэтае нагоды ЗБЖК заснавала **Фонд 450-х Угодкаў Беларускага Друку**, з прыбыткаў якога наладжана была ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Таронта вялікая выстава Старога Беларускага Друку для ўрачыстага святкавання, арганізаванага Згуртаваннем Беларусаў Канады, двух важных юбілеяў, а гэта: **450-х угодкаў Беларускага Друку** і стагоддзя Канады. Астачу грошай з Фонду ЗБЖК ахвяравала для БІНІМ у Нью-Ёрку на выданне **5-ае Кнігі Запісаў**, што была прысвечана 450-м угодкам беларускага друку.

У сувязі з стагоддзем Канады ЗБЖК брала актыўны ўдзел у шматкультурнай імпрэзе, якую ладзіў горад Таронта.

Па лініі супрацоўніцтва з парафіяй св. Кірылы Тураўскага: у лістападзе 1966 году парафія гасціла Епархіяльны Сабор Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, для знаных удзельнікаў Сабору былі наладжаны пад кіраўніцтвам Марыі Ганько два ўрачыстыя абеды і вячэра.

У травені 1967 году парафія Сьв.Кірылы Тураўскага адзначала парафіяльнае свята ў спалучэнні з Днём Маткі. На урачыстасці прысутнічаў і прамаўляў Яго Прасьвяшчэнства Першагерарх БАПЦ Уладыка Васіль з Нью- Ёрку, а Старшыня ЗБЖК Раіса Жук-Грышкевіч мела прынагодны даклад на Дзень Маткі.

На Міколы — імяніны Уладыкі Мікалая — на святкаванні 20-годдзя БАПЦ, на Вялікдзень жанчыны ладзілі ўрачыстыя застольныя бяседы, спалучаныя з рэчытацыяй, як напрыклад на вялікдзень, выняткаў з паэмы Якуба Коласа "Новай Зямлі".

Кожны год ЗБЖК арганізавала навагоднюю вечарыну і ялінку для дзяцей.

Па лініі культурна-асветнай — самаўзгадаваўчай — сарганізавалі мы ў лістападзе 1967 г. акадэмію на 50-я угодкі Усебеларускага Кангрэсу, у чэрвені 1968 г. — Дзень Прадславы — Св.Ефрасінні Полацкай. У студзені 1969 на вадохрышчы адзначылі мы 70-я ўгодкі з дня нараджэння паэткі Канстанцыі Буйла, аўтаркі песні "Люблю наш край старонку гэту".

У 1969 годзе ЗБЖК запрасіла сваю ганаровую сяброўку, паэтку Наталлю Арсенневу на, прысвечаны ёй і ейнай творчасці, літаратурны вечар, што адбыўся 16 лютага ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Таронта. На імпрэзе было тры даклады: 1. "Аб літаратурнай творчасці Наталлі Арсенневай" др. Вінцэнта Жук-Грышкевіча, 2. "Майму жыццю" самое паэткі Наталлі Арсенневай і 3. "Чалавек у творчасці Наталлі Арсенневай" маг. Алеся Грыцука. Апрача дакладаў былі выступленні украінскага паэта Барыса Аляксандрава і др., Язэпа Сажыча, рэчытацыі вершаў паэткі і агульнаадспяваныя песні на словы Наталлі Арсенневай.

У лістападзе 1969 году ЗБЖК арганізавала першую ў Канадзе беларусаў выставу выяўленчага мастацтва Галіны Русак, беларускае мастачкі з ЗША.

У 1970 годзе адзначылі мы ўрачыстай акадэміяй 60-я ўгодкі паэткі Ларысы Ге-нюш.

1975 год быў Міжнародным годам жанчыны. У чэрвені ў Мехіка адбылася Міжнародная канфэрэнцыя жанчын. 1975 год быў таксама юбілейным годам — дзесяцігоддзя ЗБЖК. Бы-ла падвойная прычына арганізаваць ў БРГЦ у Таронта Канферэнцыю беларускіх жанчын Канады, на якую была наладжана выстава выяўленчага мастацтва беларускай мастачкі Івонкі Сурвіллы з Канады, выстаўка кніг напісаных беларускімі жанчынамі і сімпозіюм, які складаўся з дакладаў сябровак ЗБЖК: Вольгі Грыцук, Раісы Жук-Грышкевіч, Людмілы Рагулі і Івонкі Сурвіллы.

Дзеля таго, што Міжнародная канфэрэнцыя жанчын у Мехіка прыняла рэзалюцыю, што дамагалася правоў чалавека жанчынам у Чылі, Паўдзённай Афрыцы, Палестыне, Арабіі, а нічога не ўспамінала пра вязняў сумлення ў іншай часцы свету — у Савецкім Саюзе, Канфэрэнцыя беларускіх жанчын Канады прыняла рэзалюцыю, якая выступала ў абарону жанчын у БССР ды, наогул у СССР. На гэтай Канфэрэнцыі адбыліся і перавыбары старшыні ЗБЖК.

Ад гэтага часу ЗБЖК перарвала культурна-асветную дзейнасць абмяжоўваючыся толькі, таксама важнай і неабходнай, гаспадарчай дзейнасцю.

Нашым пажаданнем на 33-я ўгодкі ЗБЖК і 50-я ЗБК ёсць, каб жаночая арганізацыя ўзнавіла культурна-асветную дзейнасць. Каб мець будучыню нам трэба ведаць нашу прошласць, нашу гісторыю.

Жыве Беларусь!

***Раіса Жук-Грышкевіч. Канада***





# Тры гады Бабруйскіх ТБМ і ТБШ

## Год 1996

### "Мовазвяржэнне па-бабруйску"

Сярод падзей і з'яў, што адбыліся ў Бабруйску ў 1996 годзе, хочацца спыніцца і разгледзець факт вырашэння моўнай праблемы ў нашым горадзе. Вырашэнне ж гэта выглядае надзвычай абуральна, не вырашэнне, а ігнараванне ды звяржэнне адно. Пэўнай вяршыняй гэтага ігнаравання беларускай мовы можна лічыць Першамайскую дэманстрацыю працоўных 96г.. Тады над плошчай імя Леніна і бліжэйшымі гарадскімі кварталамі ні тое, што не прагучала ніводнага беларускага слова, а нават верш Янкі Купалы "Маладая Беларусь" быў прачытаны ў перакладзе, па-расейску.

Не знайшлося месца беларускай мове і на іншых мерапрыемствах, што праводзіліся гарадскімі ўладамі — Дні горада, кірмашы "Залатая восень" і іншых.

Няўжо мала таго, як "бульдозерна" і ганебна абышліся з беларускай мовай папярэднікі сённяшніх уладаў у 30-80 гадах. Занядбанне роднай мовы ў іншых народаў лічыцца за найвялікшае няшчасце, а ў нас зноў і зноў упарта культывуецца

Ведаючы стаўленне да беларускай мовы многіх людзей у чыіх руках засяроджана гарадская ўлада, хочацца, звярнуцца да іх словамі старажытнай рымскай мудрасці: "Жыццё кароткае, улада непастаянная, а Радзіма вечная". Радзіма перажыве нас, але яе годнасць, яе самабытнасць, яе каштоўнасці можна праз рознага роду чынадзейства параніць і змяртвіць.

Абыходжанне з роднай беларускай мовай гэта самая недарэчная з'ява ў нашым жыцці, якую мы, хто з болем у сэрцы, хто з блюзнерай радасцю, а большасць з ацуранай абыякавасцю перажываем праз увесь свой жыццёвы шлях.

Пэўна гэтай самай ацуранасцю кіруецца дырэкцыя т.зв. "ТПФ "Продтовары". Рамантуючы крамы сваёй фірмы пад "еўра стыль" у іх корань на кораню вынішчаецца ўсё беларускае. Месца беларускаму слову няма ні ў назвах магазінаў, ні ва ўнутраным афармленні.

"Продтавары" у гэтым не адзіныя, бо існуюць іншыя "Артники", "Чайки", "Универмаги", "Кристины", якія поўна лічаць беларускую мову ворагам сваёй гандлёва-камерцыйнай дзейнасці.

Шаноўныя, родныя, дарагія, калі для Вас асабіста родная мова — нішто, дык хаця бы падумайце пра каларытнае, наша, собскае непаўторнае аблічча роднага нам Бабруйска.

Адначасна хочацца звярнуцца да ўсіх, хто спрычыняецца ў сваёй прафесійнай дзейнасці да візуальнага афармлення ў горадзе. Няўжо хтосьці будзе ў вялікім здабытку ад таго, што моўнае аблічча Бабруйска нічым не будзе адрозніваца ад Вялікіх Лук, Арла, Рыбінска і г.д.

Адным з апошніх відовішчаў у галерэі ігнараванне беларускай мовы сталася з'яўленнем у Бабруйску "Дворца бракосочетаний" і "Детской стоматологической поликлиники", і тут наша мова — выгнанніца.

Вось такі ён 1996 год, год заўзятага мардавання беларускасці ў Бабруйску. Надыйшоў 1997 і, выбачайце за сарказм — "вперёд к новым мовасвержениям, господа!"

Але, шаноўныя людзі, спадары, таварышы, панове, бабруйчане, ці не досыць надобнага роду спаборніцтва ў нелюбові да радзімага-любага беларускага слова ў нашым старажытным Бабруйску.

Віктар Маліноўскі,
працоўны АТ "ФанДОК"
Юры Грынявецкі,
выкладчык лесатэхнікума.

## Год 1997

**Намесніку старшыні Бабруйскага выканаўчага камітэта, шаноўнаму Кавалевічу М.С. ад сяброў суполкі "Таварыства беларускай школы" г. Бабруйска**

**З В А Р О Т (заява)**

Згодна з артыкулам 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь нашая родная беларуская мова з'яўляецца дзяржаўнай, а згодна з артыкулам 15 дзяржава адказная за захаванне гісторыка-культурнай і духоўнай спадчыны. Таму ў сувязі з пагаршэннем стаўлення да беларускай мовы, а таксама з-за нездавальняльнага стану беларускамоўнай адукацыі ў Бабруйску мы, сябры ТБШ вымушаны звярнуцца да Вас, Міхаіл Сідаравіч, са сваімі заўвагамі, меркаваннямі і прапановамі па паляпшэнню і нармалізацыі становішча з беларускай мовай ў Бабруйску.

Для любой нацыі, любога чалавека, які паважае сваю Бацькаўшчыну, бясспрэчным ёсць факт, што мова — гэта аснова культуры, у мове душа народа, яго гістарычна-спадчынная вызначанасць, адметнасць і ментальнасць. Жыве мова — жыве народ. Гонар і абавязак усіх — шанаваць родную мову, садзейнічаць яе развіццю і росквіту.

І на фоне ўсіх нашых суседзяў: палякаў, украінцаў, літоўцаў, латышоў, расейцаў — павальная зрусіфікаванасць нашага беларускага грамадства, ігнараванне беларускай мовы, пры ўсёй сваёй вонкавай бяскрыўднасці ўяўляе сабой страшэнную інтэлектуальную, культурную, побытавую дысгармонію і недарэчнасць.

Што ж у гэтым плане адбываецца ў Бабруйску. Адрапартаваўшыся аб нацыянальным адраджэнні, адляматаваўшы потым аб "гвалтоўнай беларусізацыі", бабруйскае чынавенства, за невялікім выключэннем, паўпала сёння ў пазіцыю поўнай абыякавасці, а ў некаторых выпадках і проста адкрытага этнацыду і зневажання да беларускага слова, да мовы Богам дадзенай гэтай зямлі.

Проста ганебныя рэчы адбываюцца ў сферы адукацыі. У многіх дзіцячых садках азнаямленне і навучанне беларускай мове звялося да мізэра, узровень ведання мовы сярод выхавацеляў садкоў крайне нездавальняльны, а нешматлікія энтузіясты, прыхільнікі роднага слова "варацца ва ўласным саку" і не ведаюць каму тут скардзіцца і на каго наракаць. Хоць у артыкуле 23 Закона аб мовах сказана, што ў дзіцячых дашкольных установах выхаванне вядзецца на беларускай мове. Што да школ, то тут сітуацыя наступная. У тых школах, дзе дырэктары людзі свядомыя, яшчэ хоць у нейкім выглядзе ды захаваліся беларускамоўныя класы, але ёсць прыклады дырэктараў і настаўнікаў, якія ўпарта настроеныя не толькі супраць беларускамоўных класаў, а і супраць беларускай мовы. Што падобныя педагогі робяць у сферы адукацыі, чаму могуць навучыць дзяцей і як паставіць іх на месца? Зноў жа чытаем артыкул 24 Закона аб мовах, дзе напісана, што ў нашай дзяржаве вучэбная і выхаваўчая праца ў агульнаадукацыйных школах вядзецца на беларускай мове.

Вялікую трывогу выклікае моўнае афармленне ў горадзе. Аб'екты сферы гандлю, сацыяльна-бытавых паслуг, медыцынскія і спартыўныя ўстановы — гэта ўсе тыя месцы, дзе беларуская мова ігнаруецца зусім, альбо старыя нешматлікія шыльды, іншыя элементы моўнага афармлення замяняюцца на новыя, выключна расейскамоўныя. Што, калі не ігнараванне тут артыкула 31 Закона аб мовах, дзе зноў жа гаворыцца, што тэксты афіцыйных аб'яў, паведамленняў, плакатаў, афіш, рэклам і т.п. выконваюцца на беларускай мове. Яскравым прыкладам "мовазвяржэння" з'яўляецца магазіны ГВФ "Прадтавары", гандлёвыя прадпрыемствы "Чайка", "Арнік". Поўная ацуранасць ад беларускай мовы пануе ў тралейбусным упраўленні. А калі з Менска ехаць у Бабруйск можна на мове суседняга народа пачытаць: "Бобруйск. Добро пожаловать". Міжволі думаецца: ці не ў расейскі горад уязджаеш? Сузіраючы ўсё гэта напрошваецца банальна-класічнае — "што-ж з намі сталася", і куды мы ідзём"?

Нігілізм, пустадомства, русафільства плюс п'янства ды распуста — гэтым перанасычана наша беларускае грамадства, ад гэтага ўсе мы церпім больш чым ад эканамічных ліхалеццяў. А калі паглядзець у гісторыю, дык найбольшы росквіт наш край меў, калі шанавалася дзяржавай родная мова, наогул культура свайго народа. І як тут не ўспомніць выказванне генерал-губернатара Северо-Западнага краю Міхаіла Мураўёва яшчэ ў 1864 г.: "Что не смог сделать русский штык, доделает русская школа..."

Мы выдатна разумеем і ўсведамляем, што музейфікацыя і сімвалізацыя мовы — гэта нязначныя паўмеры ў справе выпраўлення гібельнага становішча з беларускай мовай на Беларусі і ў Бабруйску ў прыватнасці. Безумоўна і тое, што работа на арганічным, усебаковым адраджэнні роднай беларускай мовы ў цяперашніх умовах дзейнасць мужная і нават ахвярная. І таму відавочна, што дзеянні бабруйскіх улад па падтрымцы развіцця беларускай мовы ў горадзе будуць перадусім азначаць асабістае ўсведамленне адказнасці, неабходнасці і гонару за святую ідэю для кожнага Сына і Дачкі Беларусі — Адраджэнне Бацькаўшчыны. Бо мова самая вялікая, лепшая і непасрэдная магчымасць судакрануцца, прыняцца гісторыяй і культурай свайго народа, унесці свой уклад у гэту культуру. І нікому не дадзена права пазбаўляць гэтай магчымасці сучасныя і будучыя пакаленні бабруйчан.

Шаноўны Міхаіл Сідаравіч заклікаем Вас да строгага выканання дзеючых законаў і яшчэ раз звяртаемся да Вас з надзеяй, што справа адраджэння беларускай мовы ў Бабруйску набудзе здаровы трывалы клопат і кантроль аб гэтым з боку гарадскіх улад.

Святая пакутніца, мова зямлі, на якой мы жывём, заслугоўвае гэтага клопату.

Кіруючыся ісцінай: "Вялікае пачынаецца з малога" — падаем свае прапановы па паляпшэнню стану беларускай мовы ў Бабруйску.

1. Для падання больш дзейснай функцыянальнай нагрузкі ўзяць на кантроль сітуацыю з візуальным афармленнем у горадзе. Усе надпісы, шыльды, вывескі аб'ектаў гандлю, сацкультбыту, медыцыны, спорту і іншае выконваць на беларускай, альбо на беларускай і расейскай мовах.
2. У кожнай школе горада стварыць класы з паглыбленым вывучэннем беларускай мовы і літаратуры. Рэкамендаваць вышэйшай, сярэднім спецыяльным, прафесійна-тэхнічным установам, школам пазакласныя мерапрыемствы праводзіць на роднай беларускай мове. Палепшыць работу па вывучэнню роднай мовы ў дашкольных установах.
3. Да 190 гадавіны з дня нараджэння В.І.Дуніна-Марцінкевіча правесці адкрыты конкурс на лепшы праект помніка слыннаму земляку і усталяваць помнік.
4. Для ўшанавання памяці Алеся Адамовіча перайменаваць вуліцу 50 год ВЛКСМ, ці праспект Будаўнікоў, альбо іншую ў вуліцу імя Алеся Адамовіча.

**Старшыня суполкі**
**Янкоць М.Я.**
**Намеснік старшыні**
**Грынявецкі Ю.А.**
**Сябры:**
**Маліноўскі В.**
**Кильчэўскі І.У.**
*Адасланы ў верасні 1997 года*

## Год 1998

Старшыні Бабруйскага гарадскога выканаўчага камітэта Раманоўскаму У.Ф.

**З В А Р О Т**

Паважаны Уладзімір Фёдаравіч, звяртаемся да Вас у час, калі яшчэ свежыя ў памяці слодычныя ўражанні і ўцешныя захапленні ад свята тэатру — Фестывалю нацыянальнай драматургіі, што адбыўся нядаўна ў Бабруйску. І ўсё было б болей чым хораша, калі б хвалі тэатральнага свята не разбіваліся аб каменны бераг агалцелай русіфікацыі. Кожны дзень нашай штодзённасці дадае ў шэраг ігнаравання беларускага слова новыя і новыя факты. Адзін з іх "новаспечаны" — гэта замена аншлагаў (шыльдачак з назвамі вуліц) на новыя, больш эстэтычныя, больш чытэльныя, але выключна расейскамоўныя. Жыццё засведчыла, што вісець гэтыя шыльдачкі, у адрозненні ад іншых сродкаў візуальнага афармлення, могуць не адно дзесяцігоддзе.

Няма нашай мове месца на прадпрыемствах, у бальніцах, на стадыёнах, беларускія класы знікаюць нават у беларускіх гімназіях — гоняць мову адусюль, і пры гэтым ківаюць на вышэйшае начальства, на мэра.

Беларуская мова перажыла, кажучы словамі паэта,. ***"панскія здзекі, чэкісцкія чысткі, рогат імперскі, вырак фашысцкі"***, — няўжо не хопіць, ці не варта спыніцца.

Першачарговае значэнне беларускай мове надаецца ў нашай Канстытуцыі, законе "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь".

Шаноўны Уладзімір Фёдаравіч просім Вас, як чалавека неабыякавага да мінулага і будучыні, чалавека, які адказвае за выкананне законаў, дапамагчы беларускай мове заняць у нашым Бабруйску пачэснае месца, а для пачатку паспрыяць яе вяртанню на шыльдачкі з назвамі гарадскіх вуліц.

Зварот прыняты на агульным паседжанні гарадской арганізацыі Таварыства Беларускай Школы і суполак Таварыства Беларускай Мовы.

**Старшыня гарадской арганізацыі ТБШ**
**Ю.Грынявецкі**
**Старшыня суполкі ТБМ**
**В. Маліноўскі**
**Старшыня суполкі ТБМ**
**В. Руды**

*Прыняты 2.12.98г.*
*Адасланы 13.12.98г.*

# Змаганне за мову ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь 12 склікання

## Стэнаграмы 16-й сесіі. Паседжанне 89-е. 23 сакавіка 1995 года, чацвер, 16 гадзін.



Шаснаццатая сесія
Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
дванаццатага склікання

Бюлетэнь № 89

Выданне Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
1995

*(Працяг. Пачатак у N1-3)*

**Старшыня**. Паважаныя дэпутаты, прыступаем да абмеркавання пытання. Няма яшчэ ніякага парадку. Калі ласка, слова мае дэпутат Гілевіч Ніл Сымонавіч. Калі ласка. Мы ўжо вырашылі і зацвердзілі спіс... Паважаны Сяргей Антонавіч, разглядаем! Калі ласка, Ніл Сымонавіч. (Шум у зале).

**Гілевіч Н.С.** (*Краснenская выбарчая акруга № 77, Менская вобласць*). Паважаныя дэпутаты! Я разлічваў на 10 мінут, бо хацеў выказацца па ўсіх пытаннях, прапанаваных на рэферэндум. Давядзецца спыніцца толькі на адным — на першым.

Я ўжо не аднойчы ў друку і ў вусных выступленнях выказваўся, тлумачыў, чаму сёння ні ў якім разе нельга рускай мове ў Беларусі надаваць статус дзяржаўнай. Справа ў тым, што за доўгія дзесяцігоддзі таталітарнай сістэмы беларускую мову фактычна паставілі на грань знікнення, поўнага выцяснення з усіх сфер грамадскага жыцця рускай мовай. Трэба быць зусім глухім і сляпым, каб не чуць і не бачыць гэтага. Значыць, пытанне ўжо даўно стаіць так: або — або. Або мы будзем ратаваць нашу мову, або змірымся з тым, што яна сыйдзе ў нябыт.

Дык вось, калі рускую мову ў Беларусі мы зробім сёння дзяржаўнай, усё наша нацыянальнае адраджэнне накоціцца назад і беларуская мова пачне заняпадаць далей. Яна не сканкурыруе з дзяржаўнай рускай мовай. Будзем глядзець праўдзе ў вочы.

**Старшыня.** Прабачце, калі ласка, Ніл Сымонавіч. Прабачце, я перад Нілам Сымонавічам ... Паважаныя дэпутаты ! Нельга ж так! Ваш калега выступае — надымаемся, разыходзімся. Хіба ж так можна? Давайце выслухаем адзін аднаго. Калі ласка, Ніл Сымонавіч. Прабачце яшчэ раз.

**Гілевіч Н.С.** Будзем глядзець праўдзе ў вочы. І не таму не сканкурыруе, што горшая за рускую, не. Яна такая ж выдатная, як і руская. Але яна ў такім занядбаным становішчы, што ёй патрэбна моцная дзяржаўная падтрымка.

Калі ж і рускую мову абвясціць дзяржаўнай, любы нават самы дробны чыноўнік адмовіцца пераходзіць на беларускую мову і вывучаць яе не стане. Ён скажа: "Я карыстаюся дзяржаўнай рускай мовай і адчапіцеся ад мяне са сваёй беларускай". Хіба не так? Пакладзіце кожны руку на сэрца і адкажыце сабе. У выніку беларуская мова ніколі не зойме належнага становішча ў нашай сувярэннай дзяржаве і будзе асуджана на пагібель.

І не трэба, не трэба ніякіх палітычных спекуляцый накшталт таго, што, ах, нашых дзяцей пазбаўляюць ведання рускай мовы, адрываюць ад рускай літаратуры і культуры і гэтак далей. Не трэба глядзець на нас, як на дзікуноў, якія не хочуць ведаць рускую мову і адварочваюцца ад рускай культуры. У Законе "Аб мовах" чорным па беламу запісана: "Вывучэнне рускай мовы ва ўсіх школах (падкрэсліваю, "ва ўсіх школах") Беларусі з'яўляецца абавязковым" (падкрэсліваю, "абавязковым"). Значыць, рэч не ў тым, што мы не будзем ведаць рускую мову, мы будзем яе ведаць, бо і хочам ведаць і абавязаны ведаць па закону. Прычына ж, сэнс, мэта, задача тых, хто падымае крык, не ў тым, каб абараніць рускую мову (яна не мае патрэбы ў абароне), а ў тым, каб не даць падняцца і заняць сапраўды дзяржаўнае становішча беларускай мове. Іншымі словамі, каб не даць ёй выжыць, бо, калі яна выжыве, Беларусь ніколі не стане "Северо-Западным краем" Расіі.

У якасці аргумента змагары за дзяржаўнае двухмоўе спасылаюцца на рэальную сітуацыю. Маўляў, большасць народа ў нас гаворыць па-руску. Папершае, не па-руску, а беларуска-рускай трасянкай. Сапраўды ж па-руску гаворыць значна меншая частка насельніцтва. Але рэч не аб гэтым. Дапусцім, нават і большасць. Ну і што ? У Чэхіі к 1918 году ў выніку шматвяковага нямецкага панавання па-чэшску гаварылі толькі ў глухіх вёсачках, і то не ўсе. Скрозь і ўсюды гучала мова заваёўнікаў. У 1918 годзе Чэхаславакія атрымала дзяржаўную незалежнасць, і праз 2 - 3 гады ўся Чэхія пачала і гаварыць , і пісаць па-чэшску.

Калі я ў спрэчках чую спасылкі на так званую рэальную моўную сітуацыю ў нас, я ўспамінаю таго нехлямяжнага мужыка, які, зыходзячы з рэалій (а іменна — хацелася есці), узяў ды з'еў насенную бульбу. Дык вось, разумныя палітыкі, мудрыя мужы дзяржавы, зыходзячы з рэалій, глядзяць наперад, думаюць пра будучыню і насенную бульбу не з'ядаюць.

Шаноўныя дэпутаты! У 1696 годзе, калі самастойнасць нашай тагачаснай дзяржавы ўжо зрабілася прывіднай, сойм Рэчы Паспалітай забараніў беларускую мову ў афіцыйным дзяржаўным грамадскім ужытку, усё справаводства перавёў на польскую мову. У 1840 годзе ўказам імператара Расіі была забаронена не толькі беларуская мова, але і сама назва Беларусь. У 30-я гады нашага XX стагоддзя на заходняй палавіне Беларусі, акупаванай палякамі, беларускую мову ў афіцыйным ужытку, у школах перш-наперш, забараніў прафашысцкі ўрад Пілсудскага.

Мне павінны дабавіць ... бо перарвалі надоўга.

**Старшыня.** Ніл Сымонавіч, я ўжо дабавіў.

**Гілевіч Н.С.** А на ўсходняй савецкай палавіне Беларусі расправу над беларускай мовай пачалі "неистовые ревнители интернационализма", пачалі выкарчоўку, якая цягнуляся аж да апошняга часу. Цяпер нам, парламенту рэспублікі, прапануецца сваімі рукамі задушыць нашу дзяржаўную мову, бо толькі так трэба разумець вынясенее пытання аб дзвюх дзяржаўных мовах на рэферэндум. Разлік зразумелы: даведзены да галечы, да голаду і чорнай роспачы народ думае перш за ўсё пра кавалак хлеба і можа лёгка клюнуць на прынанку.

Сёння, калі Вярхоўны Савет, што называецца, вычарпаў свае паўнамоцтвы, навязваць нам пад заслону, па прынцыпу "уходя, гаси свет" пытанне аб рэферэндуме, проста недарэчы, мы ўжо не маем на гэта права, бо не будзем мець магчымасці несці за вынікі свайго рашэння адказнасць. Людзі скажуць вось так: блаславілі, учынілі чорт ведае што і самі накрыліся хвастом. Ну, а навязваць народу рэферэндум на такіх пытаннях, як мова, амаральна, падкрэсліваю, амаральна, а тым больш што гэта і незаконна.

Дзякую за ўвагу.

**Старшыня.** Слова мае дэпутат Казлоў Генадзь Іванавіч. Я прасіў бы прытрымлівацца Рэгламенту.

**Казлоў Г.І** (*Сляпянская выбарчая акруга № 26, г. Менск.* ***Пераклад з расейскай***). Гэта цяжка, калі плануеш на дзесяць, а даюць пяць. І тым не менш, шаноўны Вярхоўны Савет, паважаны Прэзідэнт! Пачну з артыкула 33, як і выступаючы ў спрэчках "кожнаму гарантуецца свабода меркаванняў, перакананняў і іх вольнае выяўленне", што я зараз і буду рабіць.

Яшчэ да выбараў Прэзідэнта, роўна год таму, выступаючы тут, я казаў, што кожны, хто б ні быў Прэзідэнтам, на працягу максімум году пасля выбрання павінен будзе выйсці ў народ, на рэферэндум з дзвума мэтамі. Першая: падцвердзіць сваю легітымнасць. Другая: атрымаць падтрымку народа, у рэшце рэшт высветліць яго меркаванне наконт стратэгіі сваёй палітыкі на перспектыву з улікам таго, што меркаванне народа вышэй любога закона, у тым ліку і Канстытуцыі.

Працытую некалькі артыкулаў да таго, што было сказана.

"Артыкул 33. Кожнаму гарантуецца свабода меркаванняў, перакананняў і іх вольнае выяўленне".

"Артыкул 37. Грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права ўдзельнічаць у вырашэнні дзяржаўных спраў як непасрэдна, так і праз вольна выбраных прадстаўнікоў. Непасрэдны удзел грамадзянаў у кіраўніцтве справамі грамадства і дзяржавы забяспечваецца правядзеннем рэферэндумаў ..."

"Артыкул 40. Кожны мае права накіроўваць свае асабістыя калектыўныя звароты ў дзяржаўныя органы", у тым ліку, дарэчы, і да Прэзідэнта.

"Артыкул 73. Для вырашэння важнейшых пытанняў дзяржаўнага грамадскага жыцця могуць праводзіцца рэспубліканскія і мясцовыя рэферэндумы".

І артыкул 74.

"... Вярхоўны Савет не далей як за 30 дзён (аб чым ужо неаднаразова казалася) пасля вынясення на яго разгляд ... прапаноў Прэзідэнта або грамадзянаў аб правядзенні рэферэндума (падкрэсліваю) абавязаны прызначыць дату правядзення рэспубліканскага рэферэндуму".

Тым больш не магу пагадзіцца з некаторымі меркаваннямі, у тым ліку і юрыстаў, аб тым, што гэта супярэчыць закону. Законам механізм ініцыявання Прэзідэнтам не закладзены. Закон аб рэферэндуме прадугледжвае механізм рэалізацыі ініцыятывы грамадзянамі і дэпутатамі, але там няма Прэзідэнта. Таму, на мой погляд, Прэзідэнт у рамках Канстытуцыі ініцыюе сваю прапанову.

Па пытаннях, непасрэдна вынесеных на разгляд.

Першае. Я мяркую, што ў першым пытанні якраз закладзена такая фармулёўка, каб пазбегнуць парушэння канстытуцыйнасці.

Другое — па сімволіцы. Мне здаецца, што Прэзідэнт (я баюся памыліцца, але не выключаю, што, магчыма, тут таксама нейкая падстаўка) ... Не выключаю, што магу вынесці непасрэдную прапанову: у бюлетэнь занесці дзве сімволікі. І няхай народ выбірае.

Наступнае. Што тычыцца выдаткаў на правядзенне рэферэндуму, я мяркую, што гэта трошкі ад лукавага. Паколькі калі прымалі папярэднім разам, так бы мовіць, рашэнне, ніводнага слова аб выдатках не было сказана. Я мяркую, там спатрэбіцца толькі папера, тым больш людзі прызвычаіліся да нашай незаможнасці, да нашай непрагназуемасці. Меўгонар учора ўпэўніцца, спецыяльна з'ездзіў у некалькі арганізацый, старыя шыльды ўсе ляжаць, як новенькія, нікуды іх ніхто не дзяваў, хоць гэта не прычына дзеля таго, каб згаджацца з некаторымі пытаннямі.

Па пытанню роспуску Вярхоўнага Савета, я мяркую, што гэта будзе дызбаланс Канстытуцыі, яна так была стабілізавана пры падрыхтоўцы, каб улічыць гэты механізм. Хоць сёняшняя новая ініцыятыва Прэзідэнта мне, напрыклад, імпануе, што можна вырашыць гэтае пытанне, не выносячы на рэферэндум: пры неабходных умовах, аб якіх ён казаў. Я мяркую, што гэтае пытанне можна было б замяніць наступным пытаннем (тым, якое выказвалася): аб прыватызацыі ў тым ліку выглядзе, у якім яна праводзіцца. Да гэтага ўжо прышла Украіна, "вялікі рэфарматар Фёдараў" заклікаў ... перапыніць прыватызацыю.

Я мяркую, калі б было пастаўлена пытанне: праверыць і рэвізаваць тое, што зроблена прыватызацыяй, народ падтрымаў бы і нас, і Прэзідэнта, паколькі просты прыклад: мае старыя жывуць вось тут на Абутковай, цырульня была навучэнскай, дзе ... усім стрыгчыся патрэбна было б. Зачынілі пад выглядам рамонту (вось бы дзе папрацаваць адпаведным службам!), адчыняюць ... Мой дзед, які хадзіў туды дзешавей пастрыгчыся (яму формы не патрыбна асаблівай), прыходзіць туды, і што вы думаеце, там ужо абменны пункт, фірмы нейкія. Вось вам прыватызавалі як! На вачах у людзей — старых, тут, у цэнтры горада. І такіх пытанняў шмат.

Што бянтэжыць? Ці ўсё прадугледжана да дробязі, ці ўсё палічана тымі людзьмі, якія падрыхтавалі Вам, Аляксандр Рыгоравіч, гэтыя ініцыятывы? Чаму такі сумнеў? Я крытыкаваў, падкрэсліваю, адкрыта Прэзідэнта, не спадцішка, не па-за вуглом, а прылюдна, і ў сродках масавай інфармацыі за тыя памылкі, на мой погляд, якія ён дапускае. І гэта, у асноўным, сее ў ва мне некаторы сумнеў.

Вы памятаеце, Прэзідэнт толькі што ... у Маскве заяўляе: няма дамовы з братняй Расеяй. Паўстае пытанне: хто яму падказаў? Ён бы гэтакага чалавека (калі сур'ёзна) выгнаў бы адразу ж за такою падказку.

Другое. Міністр замежных спраў Сянько едзе (гэта ж не выпадкова), падпісвае "Партнёрства дзеля міру", мінае тры дні і ў газеце артыкул памочніка Прэзідэнта, і называе гэтую акцыю ледзь не злачыннай перад народам. Прэзідэнт! Паклічце іх абодвух, пакуль будуць ісці, вырашыце, каго выгнаць! Так патрэбна дзейнічаць у прававой дзяржаве.

Я лічу таксама памылкай тое, што не была ў свой час падтрымана прапанова аб прызначэнні Кебіча старшынёй МЭКа, ён шмат зрабіў бы дзеля рэспублікі, дзякуючы свайму аўтарытэту. Але Бог з ім, такіх памылак можна назваць шмат.

Падпісанне дамовы з Расеяй. Я не выключаю, што гэта будзе таксама нейкая складанасць, наколькі, прааналізаваўшы ўсё ад пачатку да канца ... яна пагаршае той стан, які быў закладзены нават у Садружнасці Незалежных Дзяржаў, але мы ж гэта ратыфікавалі ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Такім чынам, пытанняў шмат.

А яшчэ і гэтакае. Падыміце стэнаграму, я гэта рабіў, дарэчы, дзеля таго, каб зрабіць выступ сёння, зазірнуў, як абмяркоўвалі тым разам. Я перакананаўча буду прасіць даць мне трошкі больш часу (Шум у зале). Вы разумееце, у той час, калі праходзіла галасаванне, тады на рэферэндум двойчы ставілася пытанне, вы памятаеце. І тут і "здраднікі", і ўсялякія пытанні, і "не даяце ў людзей спытаць" ... Тут хочуць у людзей спытаць. Мы будзем, як быццам, пярэчыць.

Яшчэ ў мяне ёсць шмат што сказаць, але магчыма, апошняе, даруйце.

Пытанне не новае. Уся справа ў тым, што роўна 15 месяцаў таму было сабрана 178 подпісаў дэпутатаў, вось яны ўсе тут, і маюцца за падтрымку па сутнасці справы гэтакіх жа аналагічных пытанняў на рэферэндум. Мы тады пайшлі на кампраміс, не сталі нагнятаць спрэчкі. Я шкадую, што ні сярод тых подпісаў, ні сярод гэтых няма, Аляксандр Рыгоравіч, подпісаў тых дэпутатаў, якія сёння працуюць у вашым бліжэйшым акружэнні. І я перакананаўча б вам раіў ... Дарэчы, калі галасавалі аб унясенні ў павестку дня, іх таксама тут не было. У вас шырокія плечы, але ўсе не змогуць схавацца за гэтыя плечы. У гэтакі адказны момант павінен прысутнічаць увесь Урад, уся ваша "вертыкаль" тут у гэтым зале і быць разам з вамі, калі выходзіць на гэтае пытанне.

Дык вось, я раю вам ... вось гэтыя пытанні на рэферэндум няхай падпішуць усе, хто працуе сёння з вамі. Я хачу пабачыць, як вы будзеце інтэгравацца разам са спадаром Багданкевічам!

І апошняе. (Шум у зале). У гэтых дачыненнях, што тычыцца рэферэндума, маё глыбокае перакананне, вы знаходзіцеся ў рамках Канстытуцыі, а я падтрымліваю канстытуцыйныя прапановы.

Дзякуй.

*(Працяг у наст. нумары)*

Доктар філалагічных навук Генадзь Цыхун

# Дэфармацыі ў сістэме беларускай літаратурнай мовы ў гады таталітарызму



Час татальнага кантролю і ідэалагічнага засілля ў моўнай сферы Беларусі звычайна абмяжоўваюць перыядам з 1933 да сярэдзіны 50-х гадоў. “Такім чынам на доўгія гады (ад 1933 і да сярэдзіны 50-х гадоў) натуральнае развіццё нашае мовы было гвалтоўна спынена”. Аднак, несумненна, што палітычнае ўмяшальніцтва ў гэтую сферу пачалося значна раней. Ужо пад канец 20-х гадоў назіраюцца спробы жорстка звязаць моўныя працэсы з палітычнымі надзеямі і ідэалагічнымі дактрынамі, назіраецца перанос метадаў і тэрміналогіі класавай барацьбы ў моўную сферу. Факт правядзення Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (Менск, 1926) з удзелам замежных навукоўцаў быў выкарыстаны для палітычных абвінавачванняў. Паводле думкі некаторых сведкаў тых падзей, “Акадэмічная канферэнцыя, якая ўзняла нацыянальную беларускую справу на такую вышыню, зрабілася тым выходным пунктам, адкуль пачаўся пераслед беларускіх дзеячоў, беларускае культуры і ўсёй беларускай справы”. Што гэта было так, сведчыць пратакол пастановы прэзідыума Менскай акруговай кантрольнай камісіі ЦКК КП(б)Б ад 23 лістапада 1929 г. на З. Жылуновічу: “Пры правядзенні акадэмічнай канферэнцыі ... выступіў разам з іншымі асобамі, з якіх некаторыя вядомы як нацыянал-шавіністычны элемент, з заявай, у якой патрабавалася неабходнасць увядзення лацінскага алфавіту ў беларускую мову. Гэтая заява, як палітычны акт, з’яўляецца актам арыентацыі на Польшчу, накіраваным супраць культурнай сувязі працоўных БССР з народамі Савецкага Саюза”. Такім жа чынам і перыяд пасля сярэдзіны 50-х гадоў не быў вольным ад спробаў непасрэднага палітычнага і ідэалагічнага ўмяшальніцтва ў развіццё і функцыянаванне беларускай літаратурнай мовы, больш за тое, менавіта тады некаторыя тэндэнцыі, уласцівыя перыяду адкрытага таталітарызму, былі даведзены да лагічнага завяршэння. У прыватнасці, да пачатку 70-х гадоў адносіцца замацаванне ў рэспубліцы палітыкі абавязковага двухмоўя, мэта якога — стварыць умовы, што “аблягчаюць і стымулююць засваенне працоўнымі побач з роднай рускай мовы”, бо “галоўнае і рашучае значэнне мае не тое, што адрознівае іх [народы СССР. — Г.Ц.] адзін ад другога, а тое, што з’яўляецца агульным, характэрным для ўсіх народаў нашай краіны”. Тым самым быў зроблены канчатковы палітычны выбар, паколькі, як сцвярджае П.Векслер, “роля рускай мовы з’яўлялася лейтматывам ва ўсіх дыскусіях аб станаўленні беларускай літаратурнай мовы”. Пачатак гэтаму працэсу быў пакладзены вядомай пастановай ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 13 сакавіка 1938 г. “Аб абавязковым вывучэнні рускай мовы ў школах нацыянальных рэспублік і вобласцяў”, у адказ на якую Вярхоўны Савет БССР канстатаваў: “Руская мова па праву з’яўляецца дзяржаўнай мовай нашай рэспублікі”. Па іншых крыніцах зыходным пунктам працэсу была праца І.Сталіна “Нацыянальнае пытанне і ленінізм”, напісаная ў сакавіку 1929 г. У ёй выказана думка пра тое, што пасля паразы сусветнага імперыялізму сфармуецца адна міжнацыянальная мова. Пазней Сталін і яго атачэнне сцвярджалі, што для СССР такой мовай стане руская мова. З гэтага часу тэорыя зліцця нацый і моваў становіцца афіцыйнай палітыкай камуністычнай партыі.

Паколькі фармаванне і развіццё кожнай літаратурнай мовы адбываецца ў пэўных эканамічных і грамадска-палітычных умовах, то яны ўплываюць на натуральны ход гэтых працэсаў. Як правіла, такі ўплыў бывае апасродкаваным і не закранае самой сістэмы мовы. Напрыклад, масавае ўкараненне ў літаратурныя (стандартныя) мовы абрэвіятур, што назіралася ў пачатку XX ст., відаць, было вынікам узмоцненай палітызацыі розных сфер жыцця грамадства і атрымала гіпертрафіраванае выражэнне ва ўмовах еўрапейскіх дыктатарскіх рэжымаў. Сістэме большасці славянскіх моваў абрэвіяцыя была чужой, што добра адчувалі “майстры слова” — пісьменнікі. Прывядзем, напрыклад, ацэнку сітуацыі 30-х і наступных гадоў у Савецкай Беларусі ва ўспамінах С. Грахоўскага: “Бясконцае мноства абрэвіятур у нашым побыце нагадвае мармытанне неандэртальца з адных зычных гукаў”. Больш за тое, у многіх выпадках абрэвіятуры непасрэдна звязваліся з дыктатамі і мелі адпаведную эмацыянальную афарбоўку. Так, сучасны беларускі празаік У.Арлоў, прыпомніўшы скарачэнне НКВД (па-беларуску — НКУС), заяўляе: “Я прынцыпова супраць беларусізацыі і гэтага і іншых падобных скаротаў”. Аднак, нягледзячы на супраціўленне сістэмы, якое знайшло выражэнне, напрыклад, у тым, што некаторыя абрэвіятуры пры чытанні маглі змяшчаць недапушчальныя для беларускай мовы спалучэнні напрыклад, ТЮГ, якое расшыфроўваецца як “тэатр юнага гледача” і павінна вымаўляцца як “т’юг” або “цюг”), пранікненне падобных утварэнняў ішло, як правіла, стыхійна. У многіх выпадках назіраліся актыўныя спробы прыстасавання названых сродкаў да сістэмы мовы, як канкурэнцыя сёння скарачэнняў райком і райкам для раённага камітэта. У гэтай сітуацыі ўмяшальніцтва моваведаў 20-х — 30-х гадоў у фармаванне і развіццё беларускай літаратурнай мовы з мэтай удакладнення (у чым больш за ўсё яны абвінавачваліся ў гады барацьбы з т.зв. нацдэмамі) было натуральным і неабходным. Яно адпавядала навуковым уяўленням аб ролі тэорыі ў гэтым працэсе. “Хаця норма літаратурнай мовы ўстанаўліваецца не ў выніку дыктату лінгвістычнай тэорыі, але працэс яе стабілізацыі, станаўлення не абыходзіцца без нарматыўнага ўмяшальніцтва тэарэтыкаў. Лінгвістычная тэорыя ўмешваецца перш за ўсё ў норму правапісу, у меншай ступені — у граматычны лад мовы, г.зн. у яго фанетыку, марфалогію, сінтаксіс і найменш — у яго структуру і ў лексіку”. У адрозненне ад гэтага спробы некампетэнтнага, прадыктаванага пэўнымі палітычнымі і ідэалагічнымі матывамі ўмяшальніцтва ў натуральныя працэсы вядуць да глыбокай дэфармацыі, а ў многіх выпадках і да поўнага разбурэння моўнай сістэмы, як гэта назіралася ў гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Разгледзім некаторыя з’явы, што вызначылі яе развіццё ва ўмовах таталітарызму.

Адным з найбольш яркіх праяў таталітарнага мыслення з’яўляецца **ІЕРАРХІЗАЦЫЯ** моўных сістэм у адпаведнасці з палітычнымі ці ідэалагічнымі крытэрыямі. Ва ўмовах існуючай тады сацыялінгвістычнай сітуацыі гэта азначала, што рускай мове — мове меншасці, вядомай у гарадах у першую чаргу сярод чыноўніцтва (партыйнага кіраўніцтва) і часткі рабочых (пралетарыяту), прыпісвалася галоўная роля, а беларускай мове — мове нацыянальнай інтэлігенцыі і колькасна пераважаючай сялянскай масы — адводзілася роля аўтсайдэра.

Зыходзячы з прынцыпу дыктатуры пралетарыяту любое парушэнне такой іерархіі трактавалася, як імкненне да адарвання беларускае літаратурнае мовы ад мовы беларускіх працоўных масаў і стварэння такім чынам штучнага бар’еру паміж беларускай і рускай мовамі. Пазней абвінавачванне ў адрыве беларускай мовы ад рускай, якой прыпісваліся ідэалагічныя і палітычныя функцыі, стала асноўным абвінавачваннем супроць беларускіх пісьменнікаў, што з найбольшай адкрытасцю было выражана ў службовым допісе першага сакратара ЦК КП(б)Б П. Панамарэнкі І. Сталіну ад 21 лістапада 1938 г. “Аб беларускай мове, літаратуры і пісьменніках”. Апошнія абвінавачваліся ў тым, што спрабавалі і “внешне отдалить язык от русского. Был проект перевода белорусской письменности на латинскую основу, когда это не прошло, предложили знаки для обозначения звуков “дз” и “дж”, которые затрудняли бы русское чтение и внешне делали бы письменность непохожей на русскую. Параллельно шла большая работа по отделению белорусского языка от русского путём:

а) создания вредительской грамматики, правописания;

б) изгнания из лексикона русских слов и замена их польскими;

в) введение слов, встречающихся в одном-двух районах Белоруссии, как правило, записывавшихся от неграмотных стариков и старух или детей, не посещающих советскую школу;

г) собственные выдумки новых слов”.

Такім чынам, праводзілася жорсткая сувязь паміж рускай мовай і т.зв. сацыялістычным будаўніцтвам, што аўтаматычна ставіла іншыя мовы ў залежнае становішча. Гэта тэндэнцыя была, відаць, працягам традыцый “заходнерусізму”, які разглядаў беларускую мову як “наречие” велікарускай мовы, што знайшло адлюстраванне ў вядомым дакладзе Я.Воўка-Левановіча 16 снежня 1929 г., які прапанаваў кадыфікаваць у якасці нормы беларускай літаратурнай мовы асаблівасці русіфікаванага гарадскога прастамоўя (трасянкі). “Праўда, як выявілася пасля, гэта была свядомая правакацыя агента НКУС, які ўгаварыў Я.Воўка-Левановіча выступіць з такім дакладам, каб, з аднаго боку, дыскрэдытаваць знанага вучонага, а з другога — “актывізаваць” выступленні патрыятычна арыентаваных сіл з мэтай іх “разоблачения”.

Пад такое **РАНЖЫРАВАННЕ** падпадалі і ўнутрысістэмныя моўныя сродкі. Так, у прапагандысцкай кампаніі, развязанай прэсай у 1933 г. у сувязі з публікацыяй паэта П. Глебкі (які выступіў супроць непатрэбных запазычанняў у беларускай літаратурнай мове, бо яны “парушаюць яе чысціню і стройнасць”) гучалі наступныя аргументы: “звычайна бывае, што так званае “чыстае”, г.зн. старое слова з’яўляецца адпаведнікам кансерватыўнае клясы, а “чужое”, г.зн. новае, — рэвалюцыйнае”; П. Глебка “хоча адгарадзіць мову ад уплыву “русізму”, слоў новага быту і пераможнага будаўніцтва. Класічным прыкладам ідэалагізацыі марфалагічных сродкаў з’явілася замацаванне ў якасці нарматыўнага канчатку *-а* ў род.скл.адз.л. назоўнікаў ***камунізма, сацыялізма***, пры канчатку *-у* ў словах тыпу ***капіталізму, імперыялізму.***

Найбольшая дэфармацыя назіралася ў сістэме арфаграфіі, дзе рабіліся неаднаразовыя спробы падмяніць вядучы прынцып беларускага правапісу — фанетычны — марфалагічным. Так, напрыклад, М.Клімковіч, член створанай урадам правапіснай камісіі ў 1939 г. сцвярджаў, што такія рысы беларускай мовы, як аканне, дзеканне і цеканне зусім не павінны перадавацца на пісьме. Адмова ад фанетычнага прынцыпу не толькі падрывала асновы сістэмы правапісу, выпрацаванай у выніку працяглай практыкі і кадыфікаванага ў граматыцы Б.Тарашкевіча (Вільня, 1918), але небяспечна набліжала пісьмовы воблік беларускай літаратурнай мовы да рускай. Тым самым ставіліся пад сумненне неабходнасць самога існавання асобнай літаратурнай мовы. Між тым, як было прадэманстравана намі, фанетычны прынцып у беларускім правапісе вынікаў з самой логікі фармавання і развіцця новай літаратурнай мовы у рамках т.зв. тыпалагічнай (“Вукавай”) традыцыі славянскіх літаратурных моваў. Паколькі таталітарызм немагчымы без велізарнага адміністрацыйна-бюракратычнага апарата, аргументы апошняга парадку пераважалі над чыста моўнымі. Асноўнай тэндэнцыяй у гэтым выпадку выступала **УНІФІКАЦЫЯ** напісання (ва ўмовах Бела-русі — надгонка пад рускае), бо, як пісаў адзін знаны вучоны, “у абсалютным моўным адзінстве зацікаўлена... любая бюракратыя”, а яна, як вядома, была рускамоўнай. У названым раней лісце І.Сталіну гэта тэндэнцыя выяўляецца вельмі выразна: “Так было введено, как непреложный принцип, аканье, т.е. написание ***“а”*** не под ударением вместо ***“о”*** и ***“я”*** вместо ***“е”***. Например, “горад”, “вялікі” вместо русских “город”, “великий”, в произношении же в русском и белорусском языках здесь слышатся одинаковые звуки. Или, например, “Ворошилов” пишется “Варашылаў”. Эта разница, как и многое другое, искуственно введённое, затрудняет усвоение русского и белорусского правописаний белорусским школьником, так как два языка в школе учат различным правилам. Согласно правописанию фамилии и имена русского и белоруса должны писаться по-разному, равно как и географические названия. Белорусские фамилии подчиняются аканью, а русские нет.

Белорус пишется
Астроўскі Аляксей,
а русский –
Островский Алексей.

Этим самым подчёркивается национальность носителя. Или, к примеру, село Тереховка, если русское, то пишется Тереховка, если белорусское, то Церахаўка. А если река протекает через ряд республик, то и названия на карте подписываются по-разному — “Днепра”, “Дняпра” и т.д. Калекцыю падобных прыкладаў прыводзіць А.Калубовіч у адной са сваіх публікацый. Так, аргументам на карысць ідэнтычнага рускаму напісання назвы галоўнага горада БССР як Мінск, а не Менск (шырока вядомага па помніках і ў народнай мове) было тое, што “гэта імя аднае з рэспубліканскіх сталіцаў “нашае краіны”, і яно ўсюды павінна пісацца аднолькава. Тая ж аргументацыя выкарыстоўвалася ў якасці “навуковай”, як відаць з пратакола пасяджэння Інстытута мовазнаўства Беларускай акадэміі навук ад 18 лютага 1931 г.: “Зыходзячы з таго, што ўся працоўная Беларусь, а таксама суседнія рэс-публікі ведаюць і ўжываюць тэрмін Мінск, а толькі нязначная частка Міншчыны гаворыць Менск — тэрмін Менск, уведзены нацдэмамі, замяніць агульна вядомым Мінск.

(*Заканчэнне ў наст. нум.*)





# Змаганне за Беларускі нацыянальны універсітэт працягваецца!

1997 - 1998 гадах сябры ТБМ сабралі больш 8 тысяч подпісаў грамадзян Беларусі за адкрыццё на Беларусі прэстыжнай навучальнай вышэйшай установы, дзе б усё выкладанне ішло толькі па-беларуску. У мінулым годзе сакратарыят ТБМ правёў у Менску на гэтую тэму некалькі пікетаў і два мітынгі. Вясной мы зноў выйдзем на вуліцы і плошчы беларускіх гарадоў з нашымі законнымі, канстытуцыйнымі патрабаваннямі. Нашыя дзеці, выпускнікі беларускіх школ і класаў павінны вучыцца ў беларускамоўным універсітэце. Мы не хочам быць у сваёй дзяржаве людзьмі другога гатунку, якім месца толькі на заводзе ці ў калгасе.

Таму мы друкуем у "Нашым слове" бланк для збору подпісаў за аднаўленне беларускай адукацыі ўсіх узроўняў. Сябры, выражце гэты бланк з газеты, падпішыцеся самі, збярыце подпісы ў сваіх сяброў і знаёмых і дашліце у рэдакцыю ці непасрэдна ў сакратарыят ТБМ. Нягледзячы на зімовыя святы, збор подпісаў у розных рэгіёнах краіны працягваецца. На днях нам даслалі з Асіповічаў і розных вёсак Асіповіцкага раёна 52 подпісы нашых грамадзян у падтрымку розных ступеняў беларускамоўнай адукацыі.

Таму сябры годзе спаць і сумаваць! Бяромся за канкрэтную справу.

Алег Трусаў,
першы намеснік Старшыні ТБМ.
Менск 9.01. 1999г.

**ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ імя Ф.СКАРЫНЫ**
**ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ**

Каб спыніць дыскрымінацыю карэннага этнасу, патрабуем забяспечыць грамадзянам Беларусі канстытуцыйнае права на атрыманне вышэйшай адукацыі па-беларуску. Дзеля гэтага патрабуем, найперш,

падрыхтаваць і выдаць беларускамоўныя падручнікі па ўсіх дысцыплінах вышэйшай школы;

адкрыць Беларускі нацыянальны універсітэт;

У кожнай ВНУ сфармаваць беларускамоўныя студэнцкія плыні.

| N | Прозвішча, імя | Адрас пражывання | Дата падпісання | Подпіс |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

# Аб аб'ектыўнасці волевыяўлення народа

Пытанне аб з'яднанні прэзідэнта з народам А.Р. Лукашэнка ўздымаў не аднойчы, у тым ліку на сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі 5 жніўня. Там ён гаварыў: " Воля народа, народ былі і будуць для мяне заўсёды вызначальнымі, таму што народ выбраў мяне прэзідэнтам!!" Што датычыць асобных напрамкаў, дык па гэтых пытаннях два рэферэндумы прайшлі. Прынцыповыя пытанні мы абмеркавалі з народам. У гэтым напрамку мы і абавязаны ісці". "Народ выбраў прэзідэнта, вызначыў гэту ўладу, падтрымлівае праводзімую палітыку, выказаўся на двух рэферэндумах. Народ — адзіная крыніца ўлады, — так запісана ў Канстытуцыі. Дык чаму некаторыя асобы выступаюць супраць народа, яго волі?" Сённяшняя сітуацыя ў грамадстве нагадвае моцна савецкую пад камуністычным лозунгам "Народ і партыя — адзіныя!", але ўсім вядома яго практычная моц і сіла.

Безумоўна, у нас ёсць каму падтрымліваць прэзідэнта. Адны маюць добрую працу і службовыя пасады, адпаведную зарплату. Другіх яднае супадзенне поглядаў на вяртанне савецкіх традыцый: святкаванне даты рэвалюцыі, гадавіны камсамола, утварэння БССР, . вяртанне камісараў-замполітаў і т.д. Іншыя надтрымліваюць курс прэзідэнта на аб'яднанне Беларусі з Расеяй у адну дзяржаву. Дарэчы, на галасаванне выносілася пытанне аб падтрымцы эканамічнай інтэграцыі з Расеяй, а цяпер прэзідэнт чамусьці ўпарта ціспе на палітычную, на ўтварэнне адзінага саюза. Гэта ашуканства ці хрушчоўскі валюнтарызм ці што іншае? Некаторыя хваляць нават дыктатуру Сталіна, а не толькі цвёрдую руку кіраўніка РБ.

Але большасць электарату выконвала свой грамадзянскі абавязак на рэферэндумах не думаючы, пад уздзеяннем дзяржаўнай прапаганды па радыё, тэлебачанні, у газетах, паддаліся ўгаворам як самога прэзідэнта, так і сваіх начальнікаў, бо ўлада пазбавіла ўсіх праўдзівай інфармацыі. Таму такое волевыяўленне народа нельга лічыць аб'ектыўным і ўспрымаць як нейкі вышэйшы закон для ўлады. Трэба абавязкова ўлічваць што ў большасці жыхароў Беларусі вельмі нізкі ўзровень нацыянальнай свядомасці і кароткая гістарычная памяць, таму людзі не маглі правільна разабрацца ў пытаннях дзяржаўнай сімволікі, беларускай мовы, у змесце новай Канстытуцыі. Перад галасаваннем на першым рэферэндуме дэпутат Вярхоўнага Савета Ніл Гілевіч папярэджваў суайчыннікаў аб гэтым у сваім артыкуле "Беларусы, не станьце самазабойцамі", надрукаваным у "Народнай газеце" 15-17 красавіка 1995 года. Аўтар заклікаў людзей "не паддавацца націску тых, хто падбухторвае нас на нацыянальнае самазабойства, хто хоча, каб мы сваімі рукамі ўмярцвілі і пахавалі будучыню Беларусі, будучыню нашых дзяцей і ўнукаў" — беларускую мову. Паэт пісаў: "Ды і дзецям зразумела, што калі ў нас узаконіць у статус дзяржаўнай мову, якая і без таго тут паўсюдна пануе, — расейскую, то беларуская мова ў Беларусі пачне выцясняцца яшчэ з большай хуткасцю, чым гэта было пры "мудрых правадырах" сорак, і трыццаць, і дваццаць гадоў назад!. За шумлівай афіцыйнай агітацыяй гарачы голас — заклік народнага паэта Беларусі не быў пачуты і беларусы ўсё-такі здзейснілі трагічны акт нацыянальнага самагубства, прагаласаваўшы за роўны статус расейскай мовы з беларускай. Сапраўдную цану другому рэферэндуму вельмі красамоўна вызначыў М.Чыгір, калі знайшоў мужнасць заявіць А.Р.Лукашэнку, што не згодзен з яго палітыкай, якая прывядзе краіну да поўнага краху. і падаў у адстаўку з пасады прэм'ер - міністра. А яшчэ былі шматлікія парушэнні пры іх правядзенні. Дык як можна такое волевыяўленне лічыць адзінай крыніцай улады і ўсенароднай падтрымкай палітыкі і курса прэзідэнта?

Вось чаму многія асобы выступаюць супраць такой волі народа, бо вырашаць такое прынцыповае пытанне, як лёс беларускай мовы у беларускай дзяржаве, нельга было шляхам галасавання зрусіфікаванага насельніцтва. А прадбачанне Н.Гілевіча збываецца цалкам.

*Міхась Пузіноўскі.*
*Ашмяны.*

# Гісторыя Беларусі , але якой?

"Гэта першая айчынная "Гісторыя Беларусі", напісаня з пазіцый гістарычнай праўды. Мы адмовіліся ад усялякай ідэалагізацыі і палітазізацыі...". Менавіта такімі абнадзейлівымі словамі ахарактарызаваў прафесар Яўген Новік толькі што надрукаваны вучэбны дапаможнік па гісторыі нашай Радзімы. Калі верыць звесткам, то гэтую кнігу — шыкоўнае двухтомавае выданне ў цвёрдай зялёнай вокладцы — рыхтавалі сем гадоў, пачынаючы з 1991 года. І вось, нарэшце, доўгачаканы падручнік "Гісторыя Беларусі" (Мінск. Універсітэцкае, 1998) прыйшоў да чытача і ўжо рэкамендованы Міністэрствам адукацыі для студэнтаў. Прадстаўнічы аўтарскі калектыў у складзе 6 дактароў навук, 9 кандыдатаў навук і 4 выкладчыкаў наладзіў прэзентацыю, на якой кніга разглядалася як падзея ў беларускай гістарычнай навуцы. Але ўжо на прэзентацыі з'явіліся першыя крытычныя водгукі. Адно гэта само па сабе павінна было выклікаць цікавасць да новага падручніка і ягонага зместу. Калі, напрыклад, афіцыйная "Народная газета" пад уражаннем пачутага разгублена піша: "Аказваецца, што не было ў нашай гісторыі ніякай русіфікацыі, забароны роднай мовы і г.д. і г.д." (23.10.98г), яно грэшна самому не пачытаць так настойліва рэкламаваную кнігу.

Улічваючы аб'ём газетнага артыкула я паглядзеў толькі першую частку "Гісторыі" Традыцыйна яна заканчваецца на 1917 годзе. Пасюль лічыцца, што за 70-80 год XX стагоддзя на Беларусі адбылося не менш, чым за ўсе папярэднія часы Але няхай гэта застаецца на сумленні аўтараў. Лепей паглядзім, што яны напісалі для нас і нашых дзяцей пра мінуўшчыну беларускага народа.

Што амаль паўсюдна кідаецца ў вочы, дык гэта празмерна русафільскія сімпатыі аўтараў. Пры такіх поглядах зусім натуральна, што вайна 1654 - 1667 гг. паміж Расеяй і Рэчну Паспалітай гэта "нацыянальна-вызваленчая барацьба беларускага народа супраць польскіх паноў за ўз'яднанне з Расіяй" (стар. 208). Зразумела, што ў спісе літаратуры да гэтай тэмы таксама адсутнічае навуковая праца Генадзя Сагановіча "Невядомая вайна", дзе ён падрабязна апісаў гэтыя падзеі, іх прычыны і крывавыя вынікі для Беларусі ў час расейскага нашэсця. Альбо вось, напрыклад, наступнае. "Для беларускага народа гэта азначала канчатковае акаталічванне і паланізацыю Беларускага краю" (стар.231-232). Такімі словамі падручнік сведчыць пра паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Адзначу, што пра самога Т.Касцюшку, нацыянальнага Героя Беларусі і Польшчы, не гаворыцца нічога! Хто ён, адкуль, чаму ўзначаліў паўстанне ... Ці патрэбна гэта ведаць студэнтам сённяшняй Рэспублікі Беларусь? Затое кат Мураўёў падаецца як "энергічны дзяржаўны дзеяч, які з веданнем справы рабіў тое, да чаго быў закліканы" (стар. 339). Яшчэ прыклад: "кнігі на беларускай мове выдаваліся ў друкарнях Расейскай імперыі, асабліва ў другой палове XIX — пачатку XX ст. (гл раздзел У)" (стар.288). Сумна чытаць такое, ведаючы забароны і пераслед беларускага друкаванага слова ў гэты перыяд. Няўжо трэба зноў нагадваць, што Ф.Багушэвіч пры жыцці не ўбачыў ніводнага свайго легальна надрукаванага зборніка вершаў? Але ж паглядзім той раздзел, куды адсылаюць аўтары "Гісторыі" І што? — " У 60 - 80-я гады XIX ст. ... на беларускай мове за гэтыя гады ў краі не было выдадзена ніводнай кнігі" (стар.400) Каментар не патрэбны.

Пасля вышэйпералічанага дзіўна бачыць у беларускамоўнай газеце "Звязда" (17.11.98) хваляванні з нагоды таго, што "новы падручнік будзе па кішэні далёка не кожнай беларускай сям'і". Шаноўныя, у гэтым выпадку лепей толькі радавацца.

З павагай і ўдзячнасцю да "Нашага Слова"

*Сяржук Аржанцаў.*

